


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

31 мая 2002 года
№ 22 (371)
Выходзіць па пятніцах

ПАКС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Зачыняюцца школы

АСТРАВЕЦ. 24 мая рашэннем райвыканкома зачынена 5 пачатковых школ у Вараб'ях, Яцынах, Гарынятах, Бабранейках і Літвянах. У сярэднім, там навучалася па 6 вучняў.
Як расказаў загадчык аддзела адукацыі **Аляксандр Булавіцкі**, на зэканомленыя ад закрыцця школаў грошы купяць мікрааўтобус і будуць адвозіць дзяцей у іншыя школы, што паблізу.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Дом сацпаслуг у вёсцы

СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні ў вёсцы Старыя Баруны адкрыўся дом сацыяльных паслуг. Ён будзе працаваць раз у месяц. Свае паслугі прапануюць урачы, юрысты, работнікі райвыканкома, якія адкажуць на пытанні вяскоўцаў. Не забудуцца завітаць і ўдзельнікі гуртком мастацкай самадзейнасці, якія дадуць дабрачынныя канцэрты.
Гэта ўжо пяты такі дом у раёне.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### У Мядзеле – выратавальная станцыя

МЯДЗЕЛ. На пляжы ў райцэнтры ўведзеная ў дзеянне новая выратавальная станцыя.
Раней тут быў выратавальны пост, які працаваў толькі ў сезон. Станцыя ж будзе працаваць кругласутачна ўвесь год. Адпаведна павялічыўся і штат. Будуць аказваць паслугі і па пракаце катамаранаў, лодак, у перспектыве плануюць мець да сарака адзінак тэхнікі. Збіраюцца у сезон зрабіць гандлёвы пункт. Мядзельскі раён – адзін з нямногіх ў рэспубліцы, дзе працуюць ажно тры выратавальныя станцыі (яшчэ па адной у Купе і летніку «Зубраня»).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Жонкі паслоў у інтэрнаце

ВАЛОЖЫН. 25 мая школу-інтэрнат наведалі жонкі паслоў Расіі і Арменіі **Эльвіра Даўгова** і **Ніна Арушонян**. Іх суправаджала жонка міністра замежных спраў Беларусі **Галіна Хвастова**. Пасля канцэрта, якi падрыхтавалі вучні, дэлегацыя падарыла школе мяккі куток. Гэта ўжо другі візіт жанчын з нагоды Міжнароднага дня абароны дзяцінства.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 1чэрвеня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 8°C (уначы) 20°C (удзень) | 8°C (уначы) 19°C (удзень) |

Нядзеля, 2 чэрвеня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 8°C (уначы) 21°C (удзень) | 8°C (уначы) 21°C (удзень) |



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**У школах празвінелі апошнія званкі. Тысячы настаўнікаў атрымалі вясновыя кветкі ад удзячных вучняў. Настаўніца англійскай мовы сярэдняй школы №3 Вілейкі Ніна Бірыла працуе тут амаль з моманту адкрыцця школы. Для Ніны Паўлаўны празвінеў 35-ы выпускны званок.**

# Кветкі для настаўніка

**ВІЛЕЙКА. Ніна Бірыла прыйшла працаваць у нядаўна адкрытую трэцюю гарадскую школу пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў у 1967 годзе.**

І ад таго часу месца працы не мяняла. 35 выпускаў адправіла ў жыццё Ніна Паўлаўна, 5 з іх – як класны кіраўнік. 9 год таму у школе пачалі працаваць класы з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Ініцыятарам іх стварэння была і Ніна Бірыла. Ужо два гады яна штомесяц ездзіць з вучнямі лінгвістычнага ліцэйскага класа на заняткі па спецыяльнай праграме у Лінгвістычны універсітэт.

Звязалі свой лёс з педагогікай і блізкія Ніны Бірылы. Дачка пайшла працаваць метадыстам у дзіцячы садок, а нявестка – настаўнікам у школу, дзе працуе Ніна Паўлаўна. Першы клас гэтай самай школы скончыла ўжо ўнучка педагога.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Мы не можам адмовіцца ад роднага слова

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Пішa вам Афанасьева Лідзія Леанідаўна. Я з'яўляюся вашым пастаянным чытачом. Рашылася напісаць вам гэты ліст і выказаць сваю думку. У №19 "РГ" ад 10 мая 2002 года прачытала пра адмену экзаменаў па беларускай літаратуры. Што гэта яшчэ за дзікунства? Наша беларуская мова такая мілагучная, і які вар'ят хоча, каб нашы дзеці, унукі забыліся яе? Крыху пра сябе. Жыву я ў Вілейцы. Мне 46 год. Скончыла ў 1973 годзе Княгінінскую сярэднюю школу, дзе ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове. Люблю чытаць творы на беларускай мове, хоць і рускую мову ведаю добра і магу размаўляць на ёй таксама. Вашу газету чытаю заўсёды з нейкай унутранай асалодай, бо яна выдаецца на маёй роднай мове, мове маіх дзядоў, бацькоў і прадзедаў. Дык чаму нашы дзеці, нашы нашчадкі павінныя адмовіцца ад сваёй роднай мовы, адмовіцца ад Купалы з яго "Бандароўнай", ад Коласа з яго "Новай зямлёй" ад Крапівы з яго байкамі, ад Максіма Танка?

І хоць у школе ўсе прадметы я вывучала на беларускай мове, гэта не стала перашкодай, каб скончыць тэхнікум з чырвоным дыпломам. Дзе мы жывем? На якой зямлі? Чаму мы павінныя забываць сваю мову? Такое мог прыдумаць толькі той, хто не любіць сваю Радзіму, свой народ. Мне сорамна за такога чалавека.

Вы прабачце мне, бо маё пісьмо атрымалася не вельмі складнае, але гэта ад крыўды за сваю родную мову.

**З павагай да вас, Лідзія АФАНАСЬЕВА, Вілейка.**

# Які экзамен выбіраем

"Рэгіянальная газета" пацікавілася, якія экзамены будуць здаваць сёлетнія выпускнікі. На тэлефоннай сувязі былі школы ўсіх райцэнтраў і раёнаў.

Ва ўсіх школах абавязкова павінны здаваць экзамен па матэматыцы, рускай або беларускай мовах, а таксама профільны прадмет у класах з паглыбленым вывучэннем. Прыкладам, у вёсцы Купкі Мядзельскага раёна абавязковы экзамен па біялогіі. У Ашмянскай сярэдняй школе №1 – замежная мова. Замежная мова займае 2-ю прыступку па папулярнасці. Трэцюю – сусветная мастацкая культура. З'яўляецца надзея, што свет выратуе "культурны чалавек".

Пры выбары рускай ці беларускай мовы амаль усе аддаюць перавагу беларускай. А вось беларускую літаратуру выбіраюць, у сярэднім, па 3 чалавекі з класа, а то і менш. Яна апынулася на 3-м месцы з канца. Таксама мала цікавяцца вучні гісторыяй і ўдвая менш – геаграфіяй. Вялікім попытам карыстаецца фізіка, хімія і біялогія. Па гэтых прадметах выпрабоўваюць сябе дзеці ў кожным класе. Як заўважаюць настаўнікі гарадскіх і раённых школ, такое адбываецца таму, што пры паступленні ў многія навучальныя ўстановы трэба здаваць экзамены па гэтых прадметах.

Гарадскія вучні часцей выбіраюць астраномію. Вясковым хлопцам і дзяўчатам не да зорачак. Яны больш выбіраюць вучэбна-вытворчы курс (ВВК). Наогул, гэты прадмет – абсалютны лідэр. Яго здаюць амаль усім класам. На ВВК школьнікі асвойваюць якую-небудзь спецыяльнасць: швачка, повар, кандытар і інш. Маўляў, двух зайцаў адразу: і школу скончыў, і прафесію набыў.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота IREX/ProMedia.

**На экзамене.**

# Неардынарны артыст тэатра абсурду

**МАЛАДЗЕЧНА. Я – не тэатрал, але люблю пісаць пра артыстаў. Заўсёды цікава, дзе яны іграюць чарговую ролю, а дзе – натуральныя і шчырыя, таму што іх жыццё – вечны тэатр.**

Але артыст і рэжысёр народнага тэатра **Генадзь Пшэнік** так не лічыць.

— Для мяне жыццё – не тэатр, а хрысціянская ліквідацыя непісьменнасці. Стараюся быць сумленным як у творчасці, так і ў штодзённым жыцці, — сцвярджае ён.

Яго тэатр – не задавальненне, а адбітак журбы і тугі па сусвеце і людзях. Менавіта ў такім тэатры гледачы хвалююцца разам з артыстамі і не застаюцца абыякавымі. Тэатр-кабарэ адцягвае ад праблем сучаснасці.

Такія погляды не ўзніклі на пустым месцы, а прыйшлі з узростам і доследам жыцця.

— Калі гавораць пра яркія моманты ў жыцці, я ўспамінаю больш сумныя. Напэўна, гэта расплата за мае грахі, але ж і людзі "дапамагалі".

Генадзь – свабодны артыст. Яго рэжысёрская работа – трагіпарадокс "Хачу..." Мрожака – 9 год ставілася ў розных тэатрах і не стала горшая ад змяненняў часу.

Г. Пшэнік зацікавіўся польскім драматургам Мрожакам яшчэ ў студэнцкія гады. Тады такія творы забараняліся чытаць, таму што тэатр абсурду не разумелі ў СССР.

— Савецкі турыст, калі яму ўдавалася пабываць у Германіі, купляў там куртку за 130 марак. Я ж траціў 120, каб паглядзець тэатральныя пастаноўкі, — згадвае ён.

Тэатр абсурду – прагматычны. Для дэкарацый дастаткова чатырох чорных сцен. Творы Мрожака дазваляюць рэжысёру ні ад чаго не залежаць, таму што апошні дадае ў спектакль шмат ад сябе. Сам Мрожак гаварыў: "Калі ў маю драматургію рэжысёр не прыносіць свае погляды, гэта не мой спектакль".

— "Хачу..." – вельмі асабісты твор, таму што монаспектакль (задзейнічаны адзін акцёр) – адбітак толькі тваёй душы. Я вельмі самаўпэўнены чалавек, таму масавыя ролі – гэта краты для мяне. Плануючы яшчэ паставіць адну п'есу Угіса Сегніша, гэта таксама будзе монаспектакль. Разумею, трэба станавіцца лепш, вывучаць цярплівасці, але прафесія артыста патрабуе жорсткасці, запальчывасці і арганічнасці. Яшчэ **Марыя Захарэвіч** гаварыла, што галоўнае для артыста – быць гарманічным, няхай нават і абсалютным нулём, — упэўнены Генадзь Пшэнік.

Не хапае артысту і практыкі. Ёсць думкі і гатовы сцэнарый – няма падтрымкі ад гарадскога аддзела культуры. Падрыхтаваны спектакль – няма памяшкання для рэпетыцый, як здарылася з "Хачу...": прэм'ера адбылася 19 мая, а адзіная рэпетыцыя – 16-га.

— З задавальненнем паставіў бы "Вішнёвы сад", "Тры сястры" Чэхава, нават і ролі ў думках размеркаваў. Але гэта вельмі дарагія пастаноўкі. Несыграны застаўся і Раскольнікаў Дастаеўскага. Усё адно, спадзяюся, што гэтыя жаданні здзейсняцца, таму што вельмі хачу і веру, — гэта мой дэвіз жыцця, - не губляе аптымізму Генадзь.

Акрамя рэжысуры і акцёрскай занятасці, Генадзь Пшэнік піша вершы. Тэматычна розныя: прырода, каханне, любімы Мінск, які артыст лічыць сваім рытмам жыцця, унутраным станам.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Генадзь Пшэнік. Фота Вольгі Пііпенкі.

## Генадзь Пшэнік

**Рэжысёр народнага тэатра. Пра свой узрост кажа: "Я чалавек без узросту. Хаця ў 11 год адчуваў, што мне 42". Нарадзіўся ў Чысці. Там жа скончыў сярэднюю школу.**

**З 1990-91 іграў у Мінскім абласным драматычным тэатры (МАДТ)**

**1991-93 – тэатр юнага гледача**

**1993-97 – Рускі нацыянальны акадэмічны тэатр імя М. Горкага**

**З 1997 года працуе рэжысёрам народага тэатра. Бачыць сябе непрадказальным, шчодрым і дзівацкім. "Падчас баюся сам сябе, але спрабую змяніцца", – гаворыць Генадзь. Самы блізкі і родны чалавек – маці Марыя.**

**Верыць у сапраўднае сяброўства і шчырасць свайго лепшага сябра Аляксандра Суцкавера. Не церпіць зайздрасці і хлусні.**

**Генадзь Пшэнік пра трагіпарадокс "Хачу!..." — Спектакль гэты вельмі добры і хрысціянскі. Чалавек спрабуе выбрацца са смуроду. Цягнецца да прыроды, сонца, бога. Кожны з нас разлічваецца за свае грахі, але трэба верыць, што абавязкова атрымаеш дараванне. Спакуса, ліс, чалавек-конь, п'яніца, муха – станы чалавечай душы, якія змяняюць адзін аднаго.**

**"Хачу!..." кожны разумее па-свойму і шукае адпаведны сабе вобраз. Чаго сапраўды "Хачу!..."? Здароўя родным і сабе, тады і астатнія "хачу" прыйдуць.**



У чаканні лета. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Дзе адпачыць дзіцяці?

**ВІЛЕЙКА. Менавіта такое пытанне задаюць бацькі, калі надыходзяць летнія канікулы, а водпуск пераносіцца на восень.**

Але як расказаў загадчык аддзела адукацыі райвыканкома **Яўген Кулінковіч**, у раёне і горадзе будуць працаваць 42 летнікі. Кругласутачныя – "Лясная казка" (3 змены па 180 чалавек) і "Зенітавец" (4 змены – 55 чалавек).

Спартыўна-аздараўленчы летнік пры Рабунькай СШ папрацуе ў 2 змены і прыме 80 дзяцей, і 2 адпаведныя летнікі будуць дзейнічаць пры Вязынскай СШ. Не застануцца без увагі і хворыя дзеці, для якіх адкрыецца летнік пры дзіцячым аддзяленні бальніцы. А 77 дзяцей-сірот са школы-інтэрната наведаюць летнік "Даманава". Дзённыя летнікі адчыняцца амаль пры ўсіх 35 школах горада і раёна.

Такім чынам, кругласутачныя летнікі наведаюць 1030 дзяцей, якія будуць харчавацца на 2248 рублёў у суткі, а дзённыя – 1214 дзяцей, харчаванне – на 1535 рублёў.

Усе летнікі адкрыюцца 6-7 чэрвеня.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Несамотныя вечарыны паэткі

**СМАРГОНЬ. З 24 па 25 мая вядомая беларуская паэтка Данута Бічэль-Загнетава правадзіла свае творчыя вечарыны на Смаргоншчыне.**

Спачатку яна сустрэлася з вучнямі гімназіі. Потым завітала ў Крэўскую сярэднюю школу. Удзельнікі вечарын даведаліся пра творчасць паэткі, паслухалі яе вершы і атрымалі аўтографы. Данута Бічэль-Загнетава наведала яшчэ і касцёл у Міхалішках. А вось у цэнтральнай гарадской бібліятэцы паэтка сама слухала свае вершы і песні, якія спявалі пад гітару настаўніцы СШ №5. У бібліятэцы засталіся на памяць некалькі экзэмпляраў зборніка вершаў "Ты ж не самотны", прысвечаных Максіму Багдановічу, дзе акрамя вершаў паэткі ёсць і вершы **Алеся Чобата**.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

# Камп'ютэрныя гульні – уцёкі ад рэальнасці

**МАЛАДЗЕЧНА. За 2002 год у горадзе было адкрыта 22 камп'ютэрныя клубы, хаця летась быў усяго адзін. Сёння дазволу на работу ад гарвыканкома "новай формы арганічнага адпачынку моладзі" (так пазначаюцца клубы ў дакументах) чакаюць звыш за 20 уласных прадпрымальнікаў. У інспекцыі па справах непаўналетніх лічаць, што з новымі клубамі ў іх пачнуцца новыя клопаты.**

Начальнік інспекцыі **Барыс Сіняўскі**:

— 18 мая па распараджэнні гарвыканкома мы правядзілі праверку ўсіх камп'ютэрных клубаў. У шасці з іх не прытрымліваліся санітарных нормаў, не мелі кутка спажыўца і дазвалялі гуляць непаўналетнім пасля дзевяці гадзін вечара. За гэта прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць па артыкуле 144 Крымінальнага кодэкса (парушэнне правілаў гандлю) ад 5 да 10 базавых велічынь (на дадзены момант адна базавая велічыня складае 10 тыс. руб. – рэд.). Але самае страшнае – гэта гульні, якія вучаць дзяцей жорсткасці. Невыпадкова, што каля клубаў здараецца шмат іншых злачынстваў.



Камп'ютэры. Дзе мяжа, за якой карысць пераходзіць у шкоду? Фота IREX/ProMedia.

## У адным з клубаў

Пра тое, як адпачываюць дзеці, я даведалася у камп'ютэрным клубе "Віртуоз".

Звычайная раніца, каля 10 гадзін. Пакуль у памяшканні, дзе 52 камп'ютэры, 9 чалавек.

— Пакуль тут мала людзей, — расказвае памочнік адміністратара па зале **Ірына Суханава**, — вялікі наплыў пасля 10-00. Дзеці звычайна гуляюць па 5-6 гадзін. Найбольш любімыя гульні – "Counter Strike" і "Дальнобойшчыкі-2". Прыходзяць дзеткі па 6-7 год, і ў многіх няма грошай. За суткі тут бывае больш за 100 чалавек.

Калі папрасіла яе акрэсліць карысць ад такіх прыходаў, атрымалася толькі два пункты: можна навучыцца карыстацца мышкай і клавіятурай; калі дапамагаюць адзін аднаму, знаёмяцца і потым сябруюць.

Дырэктар клуба **Канстанцін Салагуб** лічыць, што дзеці сапраўды гуляюць без пачуцця меры, але іх могуць кантраляваць бацькі, калі дадуць грошай толькі на гадзіну гульні.

На самой справе дзеці нярэдка залазяць адзін перад адным у даўгі, што не заўсёды заканчваецца мірна для абодвух.

## Чым прыцягваюць клубы

Пры апытванні 20 чалавек, якія наведваюць клубы рэгулярна, высветлілася, што 10 ходзяць, каб пагуляць у розныя "стралялкі"; 5 – каб пакарыстацца Інтэрнетам; 4 – глядзяць, як гуляюць іншыя, і чакаюць, калі дазволяць пагуляць без грошай; толькі адзін хлопец знаходзіць у клубе сяброў. Але самае цікавае, што 15 чалавек найлепшай гульнёй лічаць "Counter Strike".

**Андрэй Кудзёлка**, 14 год:

— Магу гуляць па 3 гадзіны, а калі маці не дае грошай – менш. Люблю "Counter Strike", таму што можна пастраляць.

**Вадзім Каржоў**, 15 год:

— Гуляю тут па паўдня. Бывае, і ўрокі прапускаю, а на канікулах буду прыходзіць з 16-00 – і да перамогі. Прыкольна ў "Counter Strike" гуляць.

**Алег Сак**, 8 год:

— Гуляць навучыўся ў клубе і прыходжу сюды, калі няма ўрокаў, і па нядзелях. Больш падабаецца "Counter Strike", дзе ёсць тэрарысты.

І так 12 аповядаў пра цікавую гульню "Counter Strike", прыхільнікі якой, у асноўным, хлопцы. Дзяўчатам больш падабаюцца гонкі.

## Вынікі гульні ў тэрарызм

У Гомелі экспертная камісія па ацэнцы твораў мастацтва вырашыла, што гульні "Counter Strike" і "Quakes" прапагандуюць гвалт і жорсткасць. Яны ўлічылі і дадзеныя нямецкага выдання Der Spiegel, у якім напісана, што падлетак, які забіў настаўнікаў, двух вучняў і паліцэйскага, любіў пагуляць у "Counter Strike". Акрамя гэтага, калі ён ішоў на забойства, то ўзяў не толькі ружжо і маску, але і апрануўся ў "гульнявое" адзенне.

Намеснік старшыні камісіі па справах непаўналетніх маладзечанскага гарвыканкома **Ніна Герасімовіч** расказала, што афіцыйна ў камісію за 2002 год звярнуліся 2 "ахвяры" гульняў, але ж у прыватным парадку такіх скаргаў больш.

— У пачатку года па дапамогу звярнулася жанчына. Яе сын кінуў вучылішча з-за таго, што не паспявае пагуляць у клубе. У сакавіку скардзілася маці 13-гадовага хлопца, які выносіў з дома рэчы і прадаваў, каб былі грошы хадзіць у клуб.

Хвалююцца за псіхалагічны стан гульцоў і работнікі цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей.

Расказвае загадчыца аддзялення рэабілітацыі дзяцей і падлеткаў **Наталля Мазура**:

— На працягу года да нас звярнуліся 7 бацькоў. Ва ўсіх адзіная праблема: дзеці гуляюць за камп'ютэрам гадзінамі і не жадаюць нічога рабіць. Але мы бацькам тлумачым, што праблема не ў гульнях, а ў сямейнай атмасферы. Дзеці замыкаюцца ў сабе і з дапамогай гульняў адыходзяць ад рэальнага жыцця. Бацькі заўсёды гавораць пра такія выпадкі вельмі эмацыянальна. Але калі гаворыш ім, што трэба шукаць прычыну ў сям'і, сваіх паводзінах, яны не жадаюць гэта чуць. Часцей камп'ютэрнымі гульнямі захапляюцца хлопцы, таму што дзяўчаты больш эмацыянальныя і здольныя расказваць пра свае клопаты.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Заработкі затрымліваюцца па-ранейшым

Запазычанасць па заработнай плаце ў Беларусі цалкам пагашаная. Пра гэта заявіў у мінулую пятніцу, выступаючы перад дэпутатамі парламента, першы намеснік міністра працы Беларусі **Уладзімір Локіс**. Статыстыка ж сведчыць пра іншае: на канец мая запазычанасць па заработках у краіне складае 24,4 мільярда рублёў. Гэта пацвярджае і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання **Міхаіл Русы**. Каму верыць, і ці сапраўды зарobкі ў Беларусі сталі выплачваць у патрэбны тэрмін, спрабавала высветліць радыё "Рацыя".

Начальнік сацыяльна–эканамічнага аддзела ФПБ **Сяргей Сарокін** гаворыць, што статыстыка адлюстроўвае інфармацыю на 20 мая. Запазычанасць па зарплаце складае 24,1 мільярда рублёў. Няма сумненняў, што на канец мая запазычанасць па зарплаце ўзрасце.

Найбольшую заклапочанасць выклікае сельская гаспадарка. Калі па Мінску, па прамысловых прадпрыемствах больш-менш пагасілі запазычанасць, то па сялу яна толькі ўзрастае. Не пагашаная запазычанасць была за сакавік, цяпер ужо і за красавік.

Вельмі напружаная сітуацыя з настаўнікамі. Па словах Сяргея Сарокіна, запазычанасць перад работнікамі адукацыі будзе. Больш канкрэтна пра гэта стане вядома праз некалькі дзён.

Толькі сталічным настаўнікам заработак выплачваецца амаль у належны тэрмін ці з мінімальнымі затрымкамі. Найбольшая ж запазычанасць дзяржавы перад работнікамі адукацыі Віцебскай вобласці – 4 мільярды 860 мільёнаў.


Фота IREX/ProMedia.

**Эканоміка Беларусі кульгае. Чаканне рэформаў перайшло ў апатыю. Але, у адрозненне ад тэхнікі, людзям патрэбныя не падпоркі. Нават у выглядзе абяцанак пра дастойнае жыццё. А дастойнае жыццё. Яно пачынаецца з дастойнай і своечасовай заработнай платы.**

А работнікі некаторых прадпрыемстваў, наогул, грошай і не бачаць. З імі разлічваюцца натурай. Са студзеня 2000 года ў Працоўным кодэксе з'явіўся 74 артыкул, згодна з якім дапускаецца частковая (да 30 працэнтаў) выплата заработку прадукцыяй.

Праўда, артыкул Працоўнага кодэксу ўдакладняе: «са згоды працаўнікоў дапускаецца замена грашовай аплаты цалкам альбо часткова натуральнай аплатай». Звяртаем увагу слухачоў: толькі са згоды працаўніка. І яшчэ адно істотнае ўдакладненне: натуральная аплата замест грошай павінна быць прымальнай, прыдатнай для асабістага карыстання і выгаднай працаўніку і ягонай сям'і. І нават пералік ёсць, чым можна разлічвацца.

Беларускія прадпрыемствы прынялі гэты артыкул Працоўнага кодэкса як кіраўніцтва да дзеяння. Даходзіць да кур'ёзаў. Гродзенскі прадзільна-ніткавы камбінат у дзень зарплаты разлічваўся калготкамі, шкарпэткамі і панчохамі. Панчохі, пэўна, для таго, каб было ў што ў будучым складаць сапраўдныя грошы. Шкарпэтак і панчохаў выдадзена было на 13 мільёнаў рублёў (10 працэнтаў ад месячнага фонду зарплаты).

Акцыянернае прадпрыемства «Магатэкс» выдае заработак мужчынскімі кашулямі Дзяржынскай швейнай фабрыкі. Шклозавод «Нёман», што ў Бярозаўцы Гродзенскай вобласці, па-ранейшым, забяспечвае сваіх работнікаў і ўсіх іхніх сваякоў разнастайным хрусталём: усялякімі вазамі, кілішкамі, куфлямі, чаркамі і шклянкамі.

Больш пашанцавала працаўнікам прадпрыемстваў харчовай прамысловасці: ім выплачваюць заработак сапраўды «прыдатнай для ўжывання прадукцыяй». Слонімскі і Бярозаўскі мясаперапрацоўчыя заводы разлічваюцца мясной тушонкай, Клецкі вытворча-харчовы завод – кілбасой, кансервамі, йагуртамі. Слуцкая макаронная фабрыка адорвае рабочых цукрам, які бяруць, дарэчы, з задавальненнем: у перыяд нарыхтовак ягад і садавіны яго можна выгадна прадаць ці абмяняць.

Але ўсіх апярэдзіў завод «Лідсельмаш», дзе некаторым рабочым прапанавалі ўзяць замест грошай... угнаенні.

**Паводле радыё «Рацыя».**

## Курсы валют НБ РБ

| | 23 мая | 30 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1756,00 руб. | **1767,00** руб. |
| ЕЎРА | 1625,62 руб. | **1644,02** руб. |
| Злоты | 429,54 руб. | **435,70** руб. |
| Літ | 470,82 руб. | **476,19** руб. |
| Расійскі рубель | 56,16 руб. | **56,44** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1760 – 1790 руб. | **1760 – 1770** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 23.05 | 29.05 |
|---|---|---|
| **Курыныя кумпячкі**, 1 кг | 2830-2900 | **2950** |
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 11700 | **10200** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 1900-3700 | **2100-3700** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2200-2600 | **2300** |
| **Рыс**, 1 кг | 650-920 | **650-920** |
| **Грэчка**, 1 кг | 510-580 | **510-560** |
| **Цукар**, 1 кг | 740 | **740** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 740-880 | **700-880** |
| **Алей**, 1 л | 1400-1950 | **1500-1900** |
| **Маянэз**, 200 г | 350-400 | **350-400** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 600 | **650** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 800-1200 | **750-1200** |
| **Капуста**, 1 кг | 1200-1900 | **600-1200** |
| **Лімоны**, 1 кг | 2000-2200 | **2100** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1280-1600 | **1500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1800-2000 | **1200-2000** |
| **Масла**, 1 кг | 3500 | **3500** |
| **Тварог**, 1 кг | 1500-1600 | **900-1300** |
| **Малако**, 1,5 л | 500 | **500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1100-1200 | **1000-1200** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2600-2800 | **2000-2700** |
| **Морква**, 1 кг | 650-1350 | **900-1300** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 950-1000 | **700-1000** |

■ НАВІНЫ

## Карова ў 8 цэнтнераў

**МЯДЗЕЛ. Велізарная карова вагой у 792 кілаграмы выгадавалася ў жыхаркі вёскі Гірыны непадалёк ад райцэнтра.**

Гаспадыня апошнім часам увагі ёй не ўдзяляла, малако карова даваць перастала. Паслася, дзе хацела, і рабіла шкоду людзям. Давялося здаць яе на мяса.

## Чарговае золата Ілава

**МЯДЗЕЛ. Тры віды він павезла УП «Ілаўскае» на 4 міжнародны конкурс пладова-ягадных він і моцных напіткаў у Ялту.**

І кожнае з іх атрымала па залатым медалі. У лабараторыі прадпрыемства пастаянна рыхтуюць навінкі, некаторыя віны выпускаюцца ўжо на аснове трох водараў. Так, адно з «залатых» він – «Царскі скляпок» – робіцца з буякоў, вішні і яблыкаў.

## Два снарады за дзень

**МЯДЗЕЛ. Дзесяцікласнік з вёскі Лотва знайшоў артылерыйскі снарад.**

Растлумачыў, што натрапіў на яго на полі. Групу размініравання доўга не чакалі: яна ў гэты дзень якраз была ў раёне, займалася снарадам ля турбазы «Нарачанка». Так што групе давялося размініраваць два снарады.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ГРОШЫ І ЗДАРОЎЕ

## Каб не заплаціць здароўем

**Вам ніколі не прапаноўвалі купіць біялагічна-актыўныя дабаўкі? За што мы плацім свае грошы?**

Біялагічна-актыўныя дабаўкі з'явіліся на беларускім рынку прыкладна 7 год таму. І да гэтага часу ў Беларусі пра іх мала што ведаюць. Пік попыту прыходзіцца на 2001 і сёлетні год. Вытворцы гэтых прэпаратаў – часцей, расійскія прадпрыемствы. "Лекі", у асноўным, зарэгістраваныя ў Расіі.

Загадчыца цэнтральнай раённай аптэкі №198 **Валянціна Зянько**:

— Нашы, відаць, яшчэ падманваць не навучыліся.

У нас працэй аформіць іх, як дабаўку да харчавання.

Пасля іх прыёму неаднаразова ў крыві знаходзілі забароненыя элементы.

Дабаўкі праходзяць ліцэнзійную камісію, атрымліваюць сертыфікат. З неабходным пакетам дакументаў яны паступаюць на аптэчную базу. Як сцвярджаюць фармацэўты, нярэдка аптэкі атрымліваюць біялагічна-актыўныя дабаўкі без дакументаў, якія пацвярджаюць іх якасць, з аптэчнай базы. Дакументы застаюцца на базе. Калі неабходна, то дабаўкі праходзяць кантрольна-аналітычную лабараторыю. Фармацэўты раяць пакупнікам, што лепш узяць. Хаця самі з перасцярогай ставяцца да іх.

Вялікую насцярогу выклікаюць распаўсюджвальнікі дабавак, якіх мы можам сустрэць на прадпрыемствах, в установах. Прыкладам, на ЗЛМК, у раддоме, гарадской паліклініцы, іншых установах, якія, наогул, не маюць ніякага дачынення да медыцыны.

Дарэчы, Валянціна Зянько дадае, што і ўрачы ведаюць пра гэтыя "лекі" толькі па інструкцыях, якія знаходзяцца на скрынках.

Дакументаў на харчовыя дабаўкі ўрачы таксама звычайна не бачаць. Так, як і склад адной таблеткі. Толькі здагадвацца можна, што захоўвае ў сабе "Дворнік унутраных органаў", "Метамін – крыніца гаючых электронаў" ці "Селен па выкліку".

Распаўсюджвальнікі працуюць за «працэнт», які звычайна складае 10%.

Ці прадаюць такія дабаўкі ў медустановах?

Загадчыца дзіцячай паліклінікі **Святлана Скапец**:

— Мы не прадаем дабаўкі. Можам толькі парэкамендаваць іх. Бо сочым за ўсімі метадамі лячэння.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Зайшоў у бухгалтэрыю

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 мая тры бухгалтары ААТ "Маладзечнагандаль" засталіся без грошай.**

Іх украў невядомы, які трапіў у незачынены кабінет і залез у іх сумачкі. Ён знес з сабою 170 тысяч рублёў. Узбуджаная крымінальная справа.

## Абакралі

**ВІЛЕЙКА. 28 мая ў жыхаркі вёскі Асіпавічы дзве невядомыя жанчыны выкралі з шафы 1200 амерыканскіх долараў.**

Мяркуецца, што злачынцы прыязджалі на аўтамабілі "ВАЗ 2101" зялёнага колеру. На месцы крадзяжу знойдзеныя адбіткі пальцаў. У гэты ж дзень была ўзбуджаная крымінальная справа.

## Забіў жонку

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 мая 54-гадовы жыхар вёскі Уша нажом у сэрца забіў сваю жонку.**

Жанчына памерла на месцы. Як мяркуе следства, сварка адбылася з-за таго, што мужчына быў п'яны.

Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Абвінавачваны чакае суда ў ізалятары часовага затрымання.

## Загінуў пры невядомых абставінах

МАЛАДЗЕЧНА. 28 мая ў лясным масіве, каля вадасховішча, што ў 800 метрах ад аўтадарогі Хажова-Хоўхлава, знайшлі труп 40-гадовага мужчыны. Маладзечанскім ГРАУС вядзецца праверка.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



**Увазе акцыянераў ЗАТ «Бізнес - цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва», г. Маладзечна**

**6 чэрвеня 2002 года у 15⁰⁰** у зале гарадской цэнтральнай бібліятэкі (вул. Талстога, 4, 1-ы паверх) **адбудзецца нечарговы сход акцыянераў** з павесткай дня: «Аб банкруцтве ЗАТ «Бізнес – цэнтр падрымкі прадпрымальніцтва», г. Маладзечна". Прысутнасць акцыянераў абавязковая. Тэл. у Маладзечне **75124, 77735, 53717**.

Праўленне ЗАТ, Маладзечанскі гарвыканком.

# Выбар патрыманай машыны

**Вы вырашылі сабе купіць або памяняць свайго жалезнага каня!**

Зразумела, ва ўсіх аўтааматараў, сапраўдных ці патэнцыяльных, ёсць свае меркаванні наконт марак машын, заснаваныя на розных момантах жыцця. Таму пераконваць кагосьці, што японцы лепш за немцаў, я не буду, некаторыя, вунь, "узбекаў" любяць, яны зімой добра заводзяцца. У час выбару маркі хацелася б нагадаць, што шмат грошай патраціць можа толькі вельмі бедны чалавек. Менавіта так, таму што багаты чалавек грошы лічыць лепш за ўсіх астатніх, таму ён і багаты. Перад тым, як купляць, нядрэнна было б схадзіць у магазін аўтазапчасткі, спачатку па японцах, потым па немцах, па амерыканцах, ну, і не забыцца на гарачых скандынаваў. Значыць, прыкладны расклад вы ведаеце, у што вам абыдзецца ўтрыманне вашага каня пасля куплі, вы таксама ў курсе, і што новая фара на Honda CRV каштуе 250, а электрычнае люстэрка на Saab – 400 долараў, таксама не ўдарыць вас асфальтам аб твар. Паехалі далей.



Яшчэ дадзім газу!

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

## Дзе купляць?

**Першае** – гэта правіла, да якога мы будзем вяртацца ва ўсіх варыянтах куплі, – машына бегала на нашай радзіме, вы ж самі тут жывяце і цудоўна ведаеце, якія сюрпрызы нам рыхтуюць родныя абшары.

**Другое** – ці добра вы ведаеце гісторыю гэтай машыны. Можа аказацца, што Пецю вы бачылі апошні раз на выпускным вечары, і машыну ён "дзёўб" як мог.

**Трэцяе** – наколькі пан Трохвугольнікаў вам сябар? Можа, зноў жа, вы яго апошні раз бачылі на выпускным, а ваш агульны сябар Вася Пупкін, якому вы патэлефанавалі падзяліцца гэтай радаснай навіной, сказаў, што 3 гады таму Пётр адкрыў сэрвіс, дзе распілоўвае дзве машыны і зварвае з іх адну. Думаю, варта задумацца. Не пашкадуйце 50 у. а. і завязіце машыну на дыягностыку.

## Куплянне з рук

Гэта, напэўна, самы небяспечны варыянт. Магу адразу сказаць, што вы пагледзіце па аб'явах 50-70 машын, і толькі адна-дзве будуць больш-менш нічога. Аднак не трэба выключаць, што з 1000 чалавек ёсць адзін добрасумленны ўладальнік, які чысціў і прыбіраў салон у час усёй эксплуатацыі, а не перад продажам, своечасова ўсё мяняў і дыягнаставаў, ну, і не ганяў на ёй так, быццам едзе ў апошні шлях. Дарэчы, добры спосаб папрасіць прадаўца пракаціць вас, а потым ужо – і самому за руль. Аглядаць машыну трэба не як Джон Сільвестр – адным вокам, а ўсімі канечнасцямі. Калі ўзровень ведаў у вас не належны, варта папрасіць знаёмага, які добра разбіраецца ў машынах, ці прыйсці на сервіс, падысці да любога работніка і папрасіць яго з'ездзіць з вамі за разумнае ўзнагароджанне.

## Куплянне на рынку

**Першае** – кідаюць праз раз, літаральна.

**Другое** – шмат машын, якія куляліся, зваранаых з кавалкаў і да т. п..

**Некалькі парад:**

Ехаць кампаніяй, не браць з сабой усе грошы, браць з сабой чалавека, які добра разбіраецца ў машынах, не разяўляць адпаведную частку цела ў час паходу па рынку.

**А вось як дзейнічаць:**

- Знайсці машыну.
- Облазіць усю.
- Патаргавацца, як на ўсходзе, адыходзячы і вяртаючыся.
- Адобрыць.
- Прадаўца і машыну ў рукі – і да паста ДАІ, прабіць на ўгон і на ўсе справы.
- Усёй кампаніяй – на сервіс, машыну – на пад'ёмнік, механіку Васю – грошай.
- Зноў торг пасля агляду на пад'ёмніку.
- Далей вы даяце невялікі заклад 2-3 сваім сябрукам (каб маглі паказаць яго прадаўцу) і пакідаеце іх з прадаўцом і машынай. Яны едуць зняць яе з уліку, калі яна яшчэ не знятая, самі едзеце за астатняй сумай.
- Прыязджаеце з грашыма, едзеце складаць даведку-рахунак.
- І толькі тады аддаяце астатнюю суму.

## Прыгон пад заказ

Тут асабліва няма чаго раіць, акрамя таго, што не ездзіць самому, таму што кожны ў гэтым свеце павінен займацца сваёй справай. Выбірайце перагоншчыка, пажадана, знаёмага. Ніякіх задаткаў.

Да прыгнанай машыны прымяніць усе пункты праверкі, апісаныя ў пункце **Куплянне на рынку**.

## Куплянне ў салоне

Усё тое ж самае, што тычыцца і перагоншчыкаў.

Выбірайце салон, даведвайце пра ўсё, паглядзіце ўсе дакументы салона, юр. Рэгістрацыю, дазвол на гандаль і г. д., каб, калі што, вы маглі каму-небудзь і як-небудзь прад'явіць прэтэнзіі.

## Агульныя правілы

**Агульны тэхнічны стан** – усё ўважліва агледзець, усё праверыць, усе дробязі).

**Колькі было ўладальнікаў** – чым больш уладальнікаў, тым меншы кошт машыны.

**Прабег** – не вельмі важна, таму што народ у нас яго скручвае за 6 секунд.

**Маторны адсек** павінен быць сухі, але не свежавымыты.

**Агульная чысціня і акуратнасць** – заўсёды відаць, калі чалавек зрабіў адну хімчыстку перад продажам, а калі ён даглядаў машыну ў час усёй эксплуатацыі.

**Сляды рыхтоўкі і афарбоўкі** – асабліва калі чалавек гаворыць, што яна наогул не бітая. Амаль заўсёды вы знойдзеце хібнасці ў афарбоўцы, трэба толькі прыпасці да паверхні і паглядзець узроўні і запыленасць. Звычайна, у нас фарбуюць з пылам, і вельмі часта яе не паліруюць да канца – відаць гладкая заводская фарба і афарбоўка з пылам.

**Неадпаведнасць маркіроўкі шкла году выпуску** – ну, тут самі ўсё ўбачыце.

## Удары ў стойку і перакуленыя

Гэта вельмі нядобрая рэч. Звычайна пасля яе машына едзе на стапель або на зварку, таму што геометрыя кузава парушаецца. Яе, вядома, аднаўляюць, але я гэтую машыну ўжо не купіў бы. Прычым, ёсць 2 моманты: калі ўдар быў у пярэднюю стойку, якая між крылом і дзвярыма вадзіцеля, то, калі вы возьмеце ў рукі пераноску, пры жаданні ўбачыце сляды рыхтоўкі або афарбоўкі пад капотам (там звычайна такі гармонік робіцца, які грэюць і выцягваюць), калі ж удар быў у стойку паміж дзвярыма, то сядлоў вы не знойдзеце, не адарваўшы абшыўку, ну, выключаючы, само сабой, хібы ў афарбоўцы.

У выніку скажу вам: у любым выпадку лепш з'ездзіць на сервіс і ўсё праверыць. Прычым ехаць трэба не ў той сервіс, які прапаноўвае прадавец, а лепш у ваш.

Галоўнае – грошы прадаўцу можна аддаваць ТОЛЬКІ пасля зняцця з уліку і СКЛАДАННЯ ДАВЕДКІ РАХУНКА. Ну, і VIN код прабіць трэба, а зрабіць гэта вы можаце на любым пасту ДАІ, дамовіўшыся з доблесным інспектарам.

## Праверка на ўгон

Памятайце, база па ўкрадзеных машынах у нас абнаўляецца не часта. Вы купілі, зрабілі ўсё, як было напісана, інспектар ДАІ праверыў, сказаў "гуд", вы праездзілі паўгода, і ў час чарговай аперацыі "Перахват" вас спыняюць. Высвятляецца, што машына была ўгнаная ў нейкага пана Ёхі Ёхансена. Панікаваць не трэба, гэта не смяротна, бяжыце да юрыста і абараняйце правы добрасумленнага пакупніка. У 90% выпадкаў працэс гэты вы выйграеце.

Таксама хацелася б сказаць, што асабіста мяне або кагосьці з маіх знаёмых ніхто ў гэтым жыцці не прымусіць купіць машыну з прабегам па Беларусі. Няма грошай – лепш пачакаць і сабраць патрэбную суму, чым потым патраціць яшчэ грошы на рамонт, але грошы паўбяды, а вось нервы, яны, як вядома, не аднаўляюцца, а іх будзе патрачана нашмат больш, чым грошай.

Тут, праўда, трэба ведаць некалькі асаблівасцяў: усе машыны з прабегам каля 100000 кіламетраў, прывезеныя адтуль, звычайна не абслугоўваліся тамтэйшымі гаспадарамі на прадмет хадавой. Так што рыхтуйце купюры! Калі ж машына з турбінай, памятайце, што ліміт турбіны 100000 км, яе замена каштуе прыкладна 1000 долараў, і вы смела можаце таргавацца, калі вам не даюць даведку з датай замены турбіны.

Ну вось, напэўна, і ўсё. Вы цяпер знаходзіцеся ў лёгкім шоку, ужо не ведаеце, што вам рабіць. Нічога страшнага, проста адразу столькі інфармацыі. Пасядзіце, пераварыце, заўтра пачытайце яшчэ разок, а потым едзьце, купіце сабе выдатную машыну і атрымлівайце асалоду ад язды!

**Васіль Берлінскі, www.berlinauto.**

---

**■ ГІСТОРЫЯ МАРАК**

## «Запарожац-956»

**Не так даўно ў Запарожжы члены фан-клуба "Запарожцаў" пабілі рэкорд умяшчальнасці гэтага чатырохмеснага аўтамабіля. Змясцілася ў ім 22 дзіцяці.**

"Гарбушка", "гарбаты", "мыльніца", "яўрэйскі танк", "фафік" – гэта толькі некаторыя з назваў, часам абразлівых, якімі жыхары СССР ахрысцілі "Запарожац-965". Ён павінен быў стаць першым малалітражным аўтамабілем у Краіне Саветаў і, разам з тым, аўтамабілем для мас.

Працу над прататыпам "Запарожца" пачалі ў 1956 годзе ў Маскве на АЗЛК – выторцы "Масквічоў". Савецкія інжынеры ўзялі сабе за ўзор італьянскі "Фіят-600". У адрозненне ад арыгінала, прататып "Масквіча-444" (такая першапачатковая была назва "Запарожца-965") меў двухцыліндравы матацыклетны рухавік з паветраным ахаладжваннем замест чатырохцыліндравага фіятаўскага з вадкаснай сістэмай ахаладжвання. З прычын эканамічнасці пярэдняе шкло было такое самае, як і задняе. А бакавыя шыбы не апускаліся долу, а складаліся напалам. Прымітыўны прататып "гарбушкі", аднак, не спадабаўся партыйным уладам. Вярнулі яго на завод, каб палепшыць канструкцыю.

Пасля двух гадоў, у 1958-м, прадстаўленая была новая мадэль пад назвай "Масквіч-650", але яе таксама не ўхвалілі. Вырашылі, што 2-цыліндравы рухавік састарэў, і пачалі працу над чатырохцыліндравым, аб'ёмам 965 кубічных сантыметраў. Адначасова было прынятае рашэнне аб вытворчасці гэтага аўтамабіля не ў Маскве, а ў Запарожжы на заводзе камбайнаў, які перайменавалі ў Запарожскі аўтазавод (ЗАЗ). Працу над рухавікам скончылі ў чэрвені 1959 года. Восенню 1960-га з канвеера ў Запарожжы з'ехала першая "гарбушка". Аўтамабіль каштаваў 1,2 тысячы рублёў – тройчы танней за "Волгу", але нельга яго было купіць проста так, у салоне ці краме. Адзіным шанцам, каб стаць уладальнікам "Запарожца", быў выйгрыш у дзяржаўнай латарэі. Яшчэ "Запарожац" маглі атрымаць як прэмію перадавыя калгаснікі, рабочыя, шахцёры, а таксама тыя, хто карыстаўся нейкімі прывілеямі.

"Гарбушка", якая пастаянна псавалася, умомант стала тэмай анекдотаў.

**Марцін ВАЙЦЯХОЎСКІ.**

---

**■ МЕХАНІК РАІЦЬ**

# Што трэба ведаць пра дворнікі

**Вытворцы дворнікаў звычайна гарантуюць, што іхні прадукт вытрымае тры месяцы інтэнсіўнай працы.**

Аднак раней ці пазней любая гумка пачынае скрабатаць, перасковваць па шкле і, замест таго, каб зганяць ваду, толькі яе размазвае.

Інжынеры заводаў-вытворцаў робяць усё, каб дворнікі працавалі даўжэй, цішэй і эфектыўней. Нямецкі Бош прапануе новыя дворнікі тыпу "Twin". Іхні козыр – злучэнне ў адным дворніку двух абсалютна розных відаў гумы: вельмі цвёрдай і эластычнай.

Дворнікі французскай Valeo вытрымліваюць 1 тысячу гадзін працы ў найгоршых умовах. Каб працавалі цішэй, прадугледжаныя ў іх спецыяльныя элементы – "глушыльнікі". Гумкі пакрытыя графітам або бромам, што змяншае трэнне і зніжчэнне матэрыялу, калі дождж яшчэ не расцерся па шкле.

Можна купіць цалкам дворнікі, а можна выбраць і больш танны шлях – гумку. За дзве аддадзім крыху больш за $1. Палепшаная якасці (з графітам ці бромам) будуць каштаваць даражэй.

На базары ці ў аўта-крамах цяпер можна набыць такі сродак, як "антыдождж", або вадкі дворнік. Яго дзеянне грунтуецца на змяншэнні адгезіі шкла, або з'явы прылипання да шкла розных механічных частак, вады. Зразумела, яго выкарыстанне не пазбаўляе неабходнасці ў звычайных дворніках. Шыба, пакрытая такім сродкам, не так забруджваецца, а дажджавыя кроплі скатваюцца па ёй, як шарыкі ртуці. Такі прэпарат наносіцца з дапамогай анучкі.

**Пётр ПАЎЛОЎСКІ.**

### Як падоўжыць жыццё дворнікаў

**1. Ніколі не ўжывай іх, каб саскрэбці лёд, град ці засохлых мух.**
**2. Не ўключай іх, пакуль шкло сухое.**
**3. Калі твая тачка будзе доўга стаяць на сонцы, лепш дворнікі зняць і схаваць у багажніку.**
**4. Калі яны доўга не ўжываліся, узнімі іх на момант і проста адпусці, каб яны з імпэтам прыцісnуліся да шкла.**

---

# Мяняйце фільтр

**Са зменай масла неабходна замяніць і маслены фільтр. Падчас вадзіцелі задаюць пытанне: Ці можна замяніць масла, а фільтр пакінуць стары? Адказ адназначны: калі вы збіраецеся ездзіць на гэтым аўтамабіле, то нельга.**

Язда з брудным, забітым фільтрам – гэта як язда наогул без фільтра, таму што ва ўсіх фільтрах ёсць засцерагальны клапан і, калі фільтр забіваецца, усё масла праз яго паступае ў сістэму змазкі, да ўкладышаў. Брудное масла, хоць вы яго і злілі, заўсёды застаецца ў невялікай колькасці на сценках рухавіка, у розных "кішэнях" і, вядома ж, у самім масленым фільтры. У гэтым масле ёсць цвёрдыя часцінкі (тая ж сажа, металічная стружка, дакладней, металічны пыл). Калі вы ўстановіце новы фільтр, вы адфільтруеце ўсё гэтае смецце. У адваротным жа выпадку яно (са свежым маслам) праз засцерагальны клапан забітага старога фільтра трапіць на ўкладышы і там укараніцца у матэрыял алюмініевага ўкладыша. Ці ведаеце вы, што камяні пілуюць медным дыскам, у які ўкаранёны алмазны пыл? Так і ўкладышы з укаранёнымі ў іх цвёрдымі ўключэннямі (смеццем) будуць "пілаваць" шыйку каленвала. Акрамя таго, невядома, што атрымаецца ў выніку ўзаемадзеяння новага масла з рэшткамі старога ў фільтры. Можа, яно звернецца, і атрымаецца "жэле" (а яго будзе грамаў дзвесце, не менш) заб'е які-небудзь канал. Таму неабходна пры змене масла замяніць і фільтр.

**Станіслаў ЛЕВАНОВІЧ.**

---

**■ АНЕКДОТ**

Двое даішнікаў заўважаюць "Запарожац, які нясецца ну на вельмі высокай для яго хуткасці. Адзін з іх выходзіць на сярэдзіну дарогі і дае знак спыніцца. Тачка яго збівае і метраў так праз 100 спыняецца. Другі даішнік падыходзіць да вадзіцеля і пытаецца:

– Як у нас з дакументамі?

– Гэтак жа, як і з тармазамі, – адказвае вадзіцель.

Бацюшка з рабінам купілі ўскладчыну "Запарожац". Дамовіліся, што машына не будзе належаць ні да той, ні да другой рэлігіі. Але бацюшка таемна ад рабіна акрапіў машыну святой вадой. Раніцай ідзе ён да машыны і бачыць: выхлапная труба стала карацейшая амаль на далонь.

 



■ ШКОЛА

# Маладзечанская КДЮСШ прафсаюзаў – выдатныя спартыўныя поспехі

Пяць апошніх год у рэспубліканскім заліку па вучэбна-трэніровачнай, выхаваўчай і аздараўленчай рабоце ці першае (1998, 1999 годы), ці другое месца займае маладзечанская КДЮСШ прафсаюзаў. А ўвогуле, КДЮСШ функцыянуе з 1973 года. Яе дырэктарам тады быў **Мікалай Ласіцкі**, а вось ужо больш за 25 год установай кіруе **Віктар Мазнёў**.

Набраныя 64 вучэбныя групы, дзе займаюцца каля 800 дзяцей і падлеткаў.

На базе КДЮСШ праводзяцца спаборніцтвы самага высокага рэспубліканскага ўзроўню па плаванні, двойчы праходзіў еўрапейскі чэмпіянат па гарадках. Пяць год запар адбываецца адзіны ў Беларусі плавальны марафон.

За ўвесь час работы выгадавана больш за 50 майстроў спорту (мс) СССР і Беларусі, 2 майстры спорту міжнароднага класа (мсмк). Назавем некаторых з іх.

Плаванне. Прызёр спартакіяды народаў СССР, чэмпіён і рэкардсмен БССР **Станіслаў Зарыцкі**; мсмк, бронзавы прызёр чэмпіянату СССР **Таццяна Мацыборка**, рэкардсмен свету сярод юнакоў, прызёр чэмпіянату СССР, неадназовы чэмпіён БССР, пераможца матча СССР–ГДР **Станіслаў Трацэўскі**. Першыя двое займаліся ў Арнольда Карава, апошні – выхаванец Уладзіслава Антонава. На ўсесаюзных і рэспубліканскіх стартах значных поспехаў дасягалі **Глеб Магільніцкі, Людміла Крывецкая** (іх трэніраваў Караў), **Аляксандр Склокін, Святлана Бажко, Юрый Трацэўскі, Ірына Ус, Ілья Антонаў, Віталь Барташэвіч, Сяргей Канарэйкін** (трэнер Антонаў), **Надзея Іваноўская, Ганна Вірко, Наталля Асановіч** (трэнеры Аляксандр Склокін і **Алена Руткоўская** – былыя выхаванцы КДЮСШ). А Людміла Крывецкая падвяла да вяршынь сусветнага плавання неадназовую чэмпіёнку РБ, удзельніцу чэмпіянату свету **Анастасію Лях** (першыя трэнеры **Юлія Даўгіх** і Уладзіслаў Антонаў), вынікі якой дазваляюць атрымаць званне "мсмк".



**Выхаванец маладзечанскай КДЮСШ прафсаюзаў Генадзь Сушко.**

Гарадкі. З выхаванцаў КДЮСШ амаль цалкам складаецца зборная краіны, на рахунку якой трэція месцы Кубка Еўропы-94, зімовага чэмпіянату Еўропы-99, перамога на юнацкім Чэмпіянаце Еўропы (ЧЕ) ў 1997 годзе. Выхаванцамі Аляксандра Кулака і Аляксандра Сучко з'яўляюцца **Аляксандр Яршэвіч** (золата ЧЕ-96), **Віктар Даніла**ў (бронза Кубкаў Еўропы-96 і -99), **Генадзь Сушко** (серабро ЧЕ-2000), **Аляксандр Карповіч** (пераможца юнацкага ЧЕ-99).

Спартыўная гімнастыка. Выгадаваны і перададзены ў РВАР будучы мсмк **Анатоль Шыкавец** (першы трэнер **Пётр Шкабораў**). У першага трэнера **Мікалая Ласіцкага** займалася мс СССР, член зборнай СССР **Святлана Мазнёва** (у дзявоцтве **Корбут**). У якасці трэнера яна разам з **Яраславам Салашынскім** падрыхтавала **Маргарыту Раманоўскую, Алу Гладкову, Наталлю Гісаву, Іну Рабушку**. Разам з **Віктарам Хамутовым – Іну Шаўроўскую**. Яе выхаванкай з'яўляецца **Галіна Бабкевіч** (першы трэнер **Валянціна Канарэйкіна**).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Асцярожная тактыка на выездзе: другая запар нулявая нічыя

**26.05 Хімік (Светлагорск) – Смаргонь 0:0**

Арбітр Міхаіл Архіпаў (Жодзіна), 4000 гледачоў

Склад: Шэлест, Іваноў, Байда, Курак, Давідовіч, Шпакоўскі (Максіменка, 80), Дукса, Стэльмах, Кошаль (Шаблінскі, 65), Шамшорык, Сілін (Селіванаў, 55)

Матч быў прымеркаваны да Дня хіміка, але парадавацца перамозе гаспадарам не давялося. Акуратная адабаронча тактыка зноў прынесла смаргонцам ачкі. Наогул, галявыя моманты мелі і адна, і другая каманды. Так, у нашых землякоў добра білі здалёку **Кошаль** (двойчы), **Сілін, Селіванаў**, галавою небяспечна прабіваў **Стэльмах**.

Камунальнік – Нёман 4:1, ЗЛіН – Бяроза 3:1, Ведрыч-97 – Асіповічы 4:0, Нафтан – Тарпеда-Кадзіна 3:2, Днепр-ДЮСШ-1 – Лакаматыў 0:0, Ліда – Дарыда 1:3, Граніт – Дынама-Юні 2:0.

| | |
|---|---|
| Ведрыч-97 | 15 |
| Нафтан | 14 |
| Дарыда | 14 |
| Лакаматыў | 11 |
| Днепр-ДЮСШ-1 | 10 |
| ЗЛіН | 10 |
| Граніт | 10 |
| Тарпеда-Кадзіна | 9 |
| Хімік | 8 |
| **Смаргонь** | **8** |
| Камунальнік | 6 |
| Асіповічы | 5 |
| Дынама-Юні | 4 |
| Нёман | 4 |
| Бяроза | 3 |
| Ліда | 1 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ

# Стаўлю на Аргенціну

Напярэдадні мундзіяля балельшчыкаў не можа не хваляваць пытанне, хто на гэты раз стане футбольным чэмпіёнам свету. На самой справе, выбар не такі ўжо і багаты. Гісторыя сведчыць, што было ўсяго 8 чэмпіёнаў, прычым, з 1966 года толькі трое навічкоў, і ўсе яны перамагалі дома; еўрапейцы за межамі свайго кантынента ніколі не выйгравалі; ужо 40 гадоў еўрапейцы і паўднёваамерыканцы на троне чаргуюцца, і цяпер чарга за апошнімі.

З 32-х удзельнікаў рэальныя шанцы маюць адзінкі. Хто можа ўпершыню стаць чэмпіёнам? Найлепш зарэкамендавалі сябе галандцы, але яны сёлета не пры справах. Іспанія, дзе мацнейшы клубны чэмпіянат? Камерун – алімпійскі чэмпіён і чэмпіён Афрыкі? Партугалія, Данія, Нігерыя? Не верыцца, не кажучы ўжо пра астатніх.

Цяпер разгледзім тых, у каго ёсць перамožны досвед. Уругвай (2 чэмпіёнствы) даўно нічога не выйграваў. Германія (3) абнавіла свой склад і відавочна робіць стаўку на будучы мундзіаль, які пройдзе ў яе дома. Англія (1) рыхтуецца сур'ёзна, можа забрацца высока, але шмат траўмаваных гульцоў.

Францыя (1), Італія (3), Бразілія (4) едуць у Японію і Карэю з поўным правам на чэмпіёнства, іх перамога нікога не здзівіць, аднак усе яны маюць пэўныя недахопы. Так, французы проста пастарэлі, хтосьці з чэмпіёнаў свету-98 і Еўропы-2000 скончыў кар'еру, хтосьці падышоў да крытычнага ўзросту. Ім патрэбна правільна правесці змену пакаленняў, а часу ўжо не засталося. Італьянскія хаўбекі па-ранейшым слаба гуляюць, да таго ж з'явіліся праблемы ў абароне. Ці змогуць гэтыя лініі аказаць належную падтрымку зорным варатарам і нападаючым? Бразільцы шмат эксперыментавалі, мянялі трэнераў, імкнуліся нагуляць у склад мясцовых футбалістаў, але, урэшце, ўсё адно выклікалі буйны дэсант з Еўропы. Няма пэўнага лідэра: **Раналда** толькі аднавіўся пасля траўмы, а **Рывалда** сёлета не выглядаў бліскуча. Але Бразілія ў любым стане – фаварыт.

І вось хто застаецца? Аргенціна!!! Зорны, разам з тым, збалансаваны склад. Усе гульцы на вядучых ролях у сваіх еўрапейскіх клубах, а гэтыя клубы шмат выйгравалі на працягу сезона. Цяпер справа за трэнерам **Марсела Б'елса**. Калі ён паставіць сваім зоркам належную камандную гульню, быць Аргенціне (2) чэмпіёнам. У адваротным выпадку з ёй сур'ёзна пазмагаюцца Францыя, Італія і Бразілія.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Выпускны вечар

**МЯДЗЕЛ. Упершыню выпускны вечар для сваіх выхаванцаў правяла Мядзельская СДЮШАР.**

Ідэя ўзнікла з-за таго, што шмат сёлета было выпускнікоў – 19, і дасягнулі яны значных поспехаў: як у веславанні, так і ў лыжных гонках. Варта ўзгадаць толькі прызёрку Алімпійскіх дзён моладзі ў Фінляндыі **Ірыну Нафрановіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Адзначыліся маладзечанцы

**21-22 мая прайшла спартакіяда Мінскай вобласці па лёгкай атлетыцы сярод юнакоў і дзяўчат 1985–86 гадоў нараджэння, на якой добры выступілі прадстаўнікі Маладзечна і раёна.**

У дзяўчат і хлопцаў першыя месцы па бегу на дыстанцыях 800 і 1000 метраў заняла **Алена Куцкевіч** і **Сяргей Шынкевіч**. **Дзяніс Гіль** з Палачанаў быў першы на дыстанцыі 3000 метраў, **Аляксандр Станкевіч** на дыстанцыі 100 метраў. Прызёрамі ў розных відах сталі **Аляксандр Жартун, Аляксандр Камінскі, Віктар Вараб'ёў, Марына Кісель** і **Максім Цэрах**.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

**Анонс**

**04.06 18-00 Маладзечна-2000 – Белшына (Бабруйск)**
+3=5-8 19-20. Летась 0:0 дома і 0:2 на выездзе

Гэты матч, у якім бы стане не знаходзіліся працўнікі (госці, між іншым, маюць ранг чэмпіёнаў краіны), заўсёды адзін з галоўных у туры. Падобнай думкі прытрымліваюцца і на тэлебачанні: збіраюцца правесці трансляцыю гульні. Справа ў тым, што і **Людас Румбуціс** (яго творчая спрэчка з **Вячаславам Акшаевым**, наогул, мае глыбокія карані), і некаторыя футбалісты маладзечанскага клуба (**Дзмітрый Мігас, Аляксандр Сысой**) раней былі ў складзе бабруйчан. Успомнім, летась матч у Маладзечне таксама праходзіў у чэрвені, таксама трансляваўся па тэлебачанні, таксама нашы землякі пераживалі пэўны гульнявы крызіс. Дык вось сустрэча з "Белшынай" атрымалася адной з лепшых у сезоне і завяршылася баявой нічыёй з будучым чэмпіёнам.

**Увага – конкурс**

У конкурсе будуць удзельнічаць уладальнікі білетаў (абавязкова коштам 2500 рублёў) на матч 4 чэрвеня "Маладзечна" – "Белшына". У перапынку гульні свой білет з разборліва напісанымі на ім прозвішчам і іменем трэба здаць кантралёру на цэнтральным уваходзе на гарадскі стадыён. Запамінайце нумар свайго білета! Розыгрыш 20 прызоў (10 фірменных клубных шалікаў і 10 абанементаў на ўсе дамашнія матчы сезона) будзе праводзіцца ў перапынку наступнай гульні 18 чэрвеня паміж "Маладзечнам" і БАТЭ.

**01.06 Лакаматыў (Мінск) – Смаргонь**
Сустракаліся ў другой лізе летась.
+1=0-1 2-2. 0:1 на выездзе і 2:1 (Кошаль, Пагоцкі) дома

**03.06 (дублі) 18-00 Маладзечна-2000 – Белшына**
+1=0-1 5-6. Летась 3:2 (Млечка, Смірноў, Антановіч) дома і 2:4 (Матусевіч, Альховік) на выездзе

**05.06 18-00 Смаргонь – Дарыда (Мінск)**
Сустракаліся ў другой лізе ў 2000-ым годзе.
+1=0-1 1-3. 1:0 дома і 0:3 на выездзе

## Ёсць рэкорд вобласці!

**24–25 мая ў Кіеве праходзілі міжнародныя спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы сярод юнакоў і дзяўчат 1985–86 гадоў нараджэння.**

У спаборніцтвах удзельнічалі спартсмены Беларусі, Украіны, Польшчы. У складзе Мінскай вобласці ўдала выступіў маладзечанец **Яўген Мучынскі**, які заняў 2-е месца ў бегу на дыстанцыі 3000 метраў, устанавіўшы рэкорд Мінскай вобласці і часам 3 мінуты 39,37 секунды.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Чэмпіянат свету, не выходзячы з «Тайм-аўта»

**Трансляцыі ўсіх матчаў сусветнага футбольнага першынства можна будзе паглядзець у кафэ-бары "Тайм-аўт", што знаходзіцца ля ўвахода на гарадскі стадыён у Маладзечне.**

Наогул, тэлевізар там выключацца не будзе, таму да ўвагі наведвальнікаў і паўторы, і агляды, і аналіз – усё, што будуць трансляваць папулярныя тэлеканалы, у тым ліку, спадарожнікавыя.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

**Да чэмпіянату Еўропы сярод юнакоў 1985-86 г.н. рыхтуецца маладзечанец Павел Харашэвіч (трэнеры Антон і Дзяніс Найлаўцы; вага да 58 кг).**

Спаборніцтвы пройдуць ў Адэсе 5-7-га ліпеня. Цяпер спартсмен на зборах разам з нацыянальнай камандай. На міжнародным турніры ў Растове ён правёў 4 схваткі, 2 выйграў, 2 прайграў, заняў 4 месца. Магчыма, будзе выезд на турнір у Маскву 14-17 чэрвеня. Туды ж рыхтуецца ў якасці "другога нумара" зборнай маладзечанец **Міхаіл Фалатовіч** (трэнеры **Аляксандр Майсяёнак** і **Віктар Вянглоўскі**; вага да 46 кг).

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**Завяршыўся чаргова сезон. У складзе фаніпальскага "Дарожніка" чэмпіёнамі краіны сталі былыя гульцы маладзечанскага клуба Сяргей Кузняцоў, Аляксандр Сіткевіч і Дзмітрый Мацюк.**

Таксама крыху выступаў за "Дарожнік" і **Андрэй Гарнастаеў**. Сіткевіч крыху пагуляў за "Белаграпрамбанк", там жа быў **Аляксандр Снятко**. У складзе футзальнай (версія ФІФУСА) каманды "Імпульс" (Якуцк) 4 месца ў расійскім чэмпіянаце занялі **Ігар Кіркіж, Дзмітрый Янель, Аляксей Шаўчэнка, Сяргей Максімаў**. Трэнер **Сяргей Сафонаў** працаваў сёлета з маладымі гульцамі (нам вядомыя **Дзмітрый Агейчык, Сяргей Складаноўскі, Максім Грыбёнак, Дзмітрый Бароўскі**, далучаўся і **Генадзь Бахур**). Пад яго кіраўніцтвам JP стаў пераможцам чэмпіянату і фіналістам Кубка аматарскай фан-лігі, а ВСОШ-21 быў 4-м у першай лізе чэмпіянату краіны.

■ КУБАК

**26-га мая ў Віцебску адбыўся фінал. Гомель – БАТЭ 2:0.**

Так што летась у 1/8-ай фінала маладзечанцы саступілі будучым уладальнікам Кубка.

■ ПЛАВАННЕ

**На чэмпіянаце краіны ў Наваполацку ў доўгім 50-метровым басейне саўладальніцай рэкорду Беларусі стала маладзечанка Насця Лях.**

Каманда Мінскай вобласці, за якую яна выступала, у камбінаваннай эстафеце паказала рэкордны час 4.21,40. Першынствавала Насця на дыстанцыях 50 м і 200 м брасам, была другая на "стометроўцы". Яе секунды адпаведна: 33,68; 1.12,85; 2.35,51. Нагадаем, у Маскве ў 25-метровым басейне ўстанавіла ўласныя рэкорды адпаведна: 32,28; 1.10,04; 2.31,50.

Напрыканцы бягучага тыдня будзе вырашанае пытанне, ці адправіцца Насця на еўрапейскі чэмпіянат у Берліне. Магчыма, яна паедзе для ўдзелу не на асабістых дыстанцыях, а ў эстафеце.

Наш брасіст **Віталь Барташэвіч** быў першы ў складзе камбінаванай эстафеты, другі на 100 м і трэці на 50 м.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**29.05 Забудова – МТЗ-РІПА (Мінск)**
1:6 (1:2) Гол: Мартынаў.

 

# Адкуль бяруцца дзеці?



**Кірыл Ляшковіч, 7 год, будучы настаўнік пачатковых класаў.**

— Мама нарадзіла. Яна з'ела зярнятка. Так я трапіў у мамін жывот. І там жыў.



**Дзіма Курэц, 6 год, будучы шафёр вялікай машыны:**

— Урач купіў мяне ў аптэцы. Паклаў маме ў жывот. Адтуль я і нарадзіўся.



**Ангеліна Смыкоўская, 4 гады, будучы выхавальнік:**

— Па тэлевізары бачыла, як дзеці нараджаюцца. Як у цёці жывот расце, таксама бачыла. Спачатку цёця з дзядзем цалуюцца, кахаюць адзін аднаго. Потым у іх нараджаюцца дзеткі.



**Алена Грыбоўская, 13 год, будучы цырульнік:**

Ад жанчыны і мужчыны. Іх плады спарваюцца. І атрымліваецца дзіця. Праз унутраныя органы яно трапляе ў жывот.



**Юля Лобач, 11,5 год, будучы настаўнік пачатковых класаў.**

— Ну, пэўна, не купілі. Мама і тата абменьваюцца клеткамі і атрымліваецца дзіця. Яно расце ў жываце. Потым нараджаецца.



**Сяргей Калінін, 4,5 года, будучы машыніст грузавога цягніка:**

— Спачатку мама і тата кахалі адзін аднаго. Потым ажаніліся. І доўга чакалі мяне. У рэшце рэшт, нарадзілі.



**Аня Анацкая, 11 год, будучы цырульнік:**

— Не ведаю. Можа, у капусце знайшлі. Можа, у бусла ўзялі. Ён скінуў пяро. Мама яго падняла. Абагрэла, прытуліла. І з пяра з'явілася я.



**Саша Калачык, 13 год, будучы вадзіцель легкавога аўтамабіля:**

— Нарадзілі мяне. Так атрымалася. Праз палавы акт.

**Ірына РАБУШКА.**

## Гараскоп 3 – 9 чэрвеня



**Авен**
(21.03–20.04)

Некаторае зніжэнне інтэлектуальнай актыўнасці ў рабоце. Гэта не варта ўспрымаць хваравіта, насуперарць, ваш арганізм просіць часовую перадышку. Дапамажыце яму. Не прадпрымайце кардынальных дзеянняў і не рабіце радыкальных крокаў. Добрыя ўзаемаадносіны ў сям'і.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Некаторыя перашкоды ў вытворчай сферы. Не атрымаецца выканаць цалкам ніводную з намечаных эканамічных праграм. Але што тычыцца інтымнай, сардэчнай сферы, вы будзеце задаволеныя: перыяд узаемаразумення і ўвагі з боку супрацьлеглага полу і вас саміх настроіць на рамантычны лад.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Некаторыя непрыемнасці на рабоце могуць здавацца вам "крушэннем Сусвету". Аднак гэта не так, проста вы ў аднолькавай ступені можаце выклікаць у начальства як задавальненне, так і поўны адчай, калі ўпадаеце ў паласу бяздзеяння і ляноты. Паспрабуйце без крыўдаў успрыняць тое, што адбываецца навокал, а самае галоўнае – зрабіце правільныя высновы.



**Рак**
(22.06–23.07)

Будзе пераважаць жаданне адпачыць. Вы лёгка і ахвотна адсунеце вытворчыя пытанні на другі план і засяродзіцеся на ўласным унутраным свеце. Магчыма, гэта натуральная ахоўная рэакцыя на стомленасць. Але асабістыя праблемы некалькі парушаць планы адпачынку – давядзецца разбірацца з партнёрам.



**Леў**
(24.07–23.08)

Нават самыя простыя стасункі вы зможаце заблытаць так, што выбірацца давядзецца ўвесь чэрвень. Вы будзеце патрабаваць павышанай увагі, капрызіць і спрабаваць высвятляць адносіны. Займіцеся лепш бізнес-перамовамі, здзелкі пачатку чэрвеня прынясуць добрыя грошы.



**Дзева**
(24.08–23.09)

У першыя дні чэрвеня можа ўзнікнуць шэраг непаразуменняў на рабоце, якія будуць звязаныя, хутчэй, не з вашым няўменнем арганізаваць вытворчыя працэсы, а з маларухомасцю партнёраў. Цяпер час патрабуе ад вас скаардынаваных дзеянняў. Аднак паспрабуйце не выходзіць з сябе і не завышаць патрабаванняў да іншых.



**Шалі**
(24.09–23.10)

У пачатку месяца з'явяцца непрадбачаныя перашкоды на шляху развіцця вашых праграм і праектаў. Лепш некаторы час трымацца ў ценю, даць магчымасць вашаму асяроддзю штосьці вырашыць за вас. Магчымае з'яўленне ў вашым жыцці "моцных асоб", з якімі трэба быць асцярожнымі.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Вы адчуеце патрэбнасць глыбокага адыходу ў свой унутраны свет і адмаўлення ад умяшання ў яго нават самых прыемных для вас людзей. Магчымыя фінансавыя праблемы, звязаныя вялікімі грашовымі выдаткамі ці нядобрасумленнасцю партнёраў. Магчымыя невялікая дэпрэсія, стомленасць.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Узаемаразуменне з партнёрамі ў пачатку чэрвеня будзе парушанае, вы не захочаце саступаць. Магчымая некаторая агрэсіўнасць з вашага боку, што можа спалохаць або пакрыўдзіць навакольных. У выхадныя дні прага вандраванняў літаральна выштурхае вас з дому: вы будзеце радыя любому падарожжу, нават кароткай вылазцы за горад.



**Казярог**
(22.12–20.01)

У будучы перыяд адкрыюцца новыя магчымасці ці вы будзеце ацэненыя кіраўніцтвам. Магчымыя грашовыя паступленні або падарункі. У асабістым жыцці вам трэба будзе высветліць пытанне – наколькі ж вы на самой справе дэмакратычныя і колькі свабоды можаце даць партнёру.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Перыяд будзе звязаны з паездкамі або серыяй кароткатэрміновых камандзіровак. Вымушанае "жыццё на колах" настроіць на дзелавы лад. Добрая фізічная форма дапаможа вытрымаць інтэнсіўны тэмп будучых дзён. А да 9 чэрвеня вы адчуеце поўнае задавальненне – так многа паспелі зрабіць.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Не прымайце выклікі, хутчэй за ўсё, гэта будуць дробныя правакацыі з простай мэтай... падражніць вас. Калі вы будзеце спакойныя і жыццярадасныя, то дробныя ўколы праціўнікаў проста накіруюцца супраць іх жа. У выхадныя дні да вас могуць прыехаць госці, якіх вы не чакаеце, але якім будзеце вельмі радыя.

## Без спірту, аўтамабіля і грошай

**АШМЯНЫ. У адзін момант уладальнік аўтамабіля "Фольксваген-Транспарцёр" пазбавіўся свайго аўтамабіля, а таксама спірту, што ён перавозіў. Акрамя гэтага, ён вымушаны заплаціць немалы штраф.**

Яго аўтамабіль ноччу спынілі супрацоўнікі ашмянскага аддзела барацьбы з эканамічнымі злачынствамі, калі праводзілі аперацыю "Акцыз". У мікрааўтобусе знаходзілася пяць бочак са спіртам, кожная па 200 літраў. Суправаджальных дакументаў на спірт у вадзіцеля не аказалася.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Інфармацыя аб правядзенні аўкцыёну

**Прадавец** — Мядзельскае райспажыўтаварыства
**Арганізатар аўкцыёна** — ЗАТ "Эдэн"
Аўкцыён без умоў
Аб'екты:
**Адміністрацыйны будынак**, які знаходзіцца па адрасе: Мядзел, вул. Савецкая, 4. Двухпавярховы цагляны будынак з усімі камунікацыямі, які размешчаны асобна ў гандлёвым цэнтры горада, агульная плошча 183,5 м².
Пачатковая цана — 63000000 руб. (без уліку ПДВ).
**Склады аптова-гандлёвай базы**, якія знаходзяцца па адрасе: Мядзельскі р-н, станцыя Княгінін. 5 будынкаў, якія размешчаныя асобна, агульная плошча каля 3000 м², прырэйкавая плошча каля 750 м², даўжыня рампы складскіх памяшканняў - 50 м.
Пачатковая цана — 100000000 руб. (без уліку ПДВ).
Сума задатку адпаведна 6300000 руб. і 10000000 руб. (безнаяўны разлік на разліковы рахунак у філ. №601 АСБ "Беларусбанка", код 769, УНН 600414766, атрымальнік ЗАТ "Эдэн".
Форма, умовы аплаты — разавы, безнаяўны плацёж у памеры цаны продажу аб'екта і ПДВ у памеры 20% ад цаны продажу на разліковы рахунак 3012001318974 у філ. №619 АСБ "Беларусбанка", код 522, УНН 600057482, атрымальнік Мядзельскае райспажыўтаварыства.
Дакументы, патрэбныя для ўдзелу ў аўкцыёне: заява на ўдзел; копіі плацёжных даручэнняў, якія пацвярджаюць унясенне задатку; юрыдычным асобам – даверанасць, выдадзеная прадстаўніку юрыдычнай асобы, завераная натарыяльна; арыгінал і адна копія заснавальніцкіх дакументаў, завераная натарыяльна; фізічным асобам – пашпарт або іншы дакумент, які пацвярджае асобу.
Апошні тэрмін прыёму заяў — 8 чэрвеня 2002 года.
**Дата, час і месца правядзення аўкцыёну — 10 чэрвеня 2002 года ў $15^{00}$ па адрасе: Маладзечна, вул. Валынца, д.9, ЗАТ "Эдэн".**
**Тэлефон для даведак: (8-01773) 76042, (8-297) 55567.**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9255 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№22 (372) 31.05.2002**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1659. Падпісана ў друк у 13.00 30.05.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»**